# ПАГОНЯ

заснавана ў 1920 г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

грамадзка-палітычная газета

№ 27 (174) • 5 — 11 ліпеня 1996 • Кошт свабодны

# ПРАВЯРАЦЬ ВЫКЛЮЧНА ПА ЎЗГАДНЕНЬНЮ...

## ТЫТУНЁВЫЯ СПРАВЫ ЎЛАДЗІЦЬ ПРЭЗІДЭНТ

На працягу ліпеня ў Горадню павінен прыехаць Аляксандр Лукашэнка. Хутчэй за ўсё, візіт прэзідэнта краіны прыпадзе на канец месяца. 26 ліпеня ў Горадні павінна адбыцца нарада кіраўнікоў выканаўчай улады па выніках працы вобласьці ў першым паўгоддзі. Аляксандр Лукашэнка зьбіраецца таксама наведаць гарадзенскую тытунёвую фабрыку, на базе якой урад спрабуе стварыць сумеснае прадпрыемства з амерыканскай тытунёвай кампаніяй "Рэйнальдс". Як паведамлялася ў мінулым нумары "Пагоні", працоўны калектыў фабрыкі адхіліў прапанаваны амерыканскім бокам праект стварэньня гэтага СП.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

## НАШ РАДАВОД

**Сёньня ў Горадні скончае сваю працу міжнародная канферэнцыя "Гістарычная памяць народаў Вялікага Княства Літоўскага і Беларусі XIII-XX ст.".**

Яе арганізавалі Заходнебеларускі гуманітарны цэнтр дасьледаваньняў Усходняй Эўропы (дырэктар Дзьмітрый КАРАЎ) разам з Белдзяржмузеем гісторыі рэлігіі і кафедрай усеагульнай гісторыі Гарадзенскага ўнівэрсітэту. У Горадню зьехаліся навукоўцы з усей Беларусі, а таксама з Польшчы, Летувы, Украіны, Расеі, Германіі, Канады, Швайцарыі.

Сёньня на круглым стале ў музеі гісторыі рэлігіі яны абмяркоўваюць тэму "Берасьцейская вунія і ўніяцкая царква ў гісторыі народаў ВКЛ і Беларусі".

Канферэнцыя прысьвечана 500-м угодкам наданьня Горадні Магдэбургскага права.

**!!! СКАНДАЛ**

**У рэдакцыю газеты "Пагоня" патрапіла ксеракопія распараджэньня Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь пад назовам "Аб упарадкаваньні праверак фінансава-гаспадарчай дзейнасьці некаторых цэнтральных ворганаў і іх структурных падразьдзяленьняў". Выдадзена яно 20 сакавіка 1996 года за N 64 рп.**




Такія распараджэньні мог аддаваць расейскі цар, ці эўрапейскі кароль, альбо генсек партыі "Ум, Честь и Совесть Нашей Эпохи". З генсекамі ўсё зразумела, яны людзі асобай пробы, вялі чалавецтва да ўсеагульнага шчасьця, нічога не саромеліся. З царамі-каралямі таксама - валадар заўсёды валадар. Але Прэзідэнт Беларусі ні высакародным паходжаньнем, ні першасакратарствам не вызначаецца. Між тым, прэтэнзіі выяўляе сапраўды імператарскія.

Сутнасьць згаданага распараджэньня зводзіцца да таго, што праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасьці прэзідэнцкай адміністрацыі, апарата Кабінета Міністраў, сілавых міністэрстваў не магчымыя без дазволу прэзідэнта краіны, альбо, калі быць дакладным, "ажыцьцяўляюцца выключна па ўзгадненьню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь".

В.Кебічу такое нават ня сьнілася. Наіўны С.Шушкевіч пусьціў праверыць свае паперкі і быў зьняты з найвышэйшай пасады за "крадзеж цьвікоў". Чаму так адбылося? Бо ў той перыяд лічылася, што службовая асоба сама па сабе. Хтосьці працуе, нехта правярае: нармальна.

Сёньняшнія кіраўнікі прыватызавалі дзяржаву і не пускаюць у сваё валадарства розных там "смердов". Ці варта казаць, што гэта незаконна і неканстытуцыйна? Пракуратура, напрыклад, надзелена правам вышэйшага нагляду за законнасьцю і можа праверыць любую ўстанову, а калі тая адмовіцца, то пракуратура можа ўжыць сілу і ўзбудзіць крымінальную справу. Але пракуратура, відаць, лічыць, што жонка Цэзара вышэй за падазрэньні. Дарэчы, дзейнасьць самой пракуратуры можна правяраць без узгадненьняў.

А вось мытнікаў нельга. МУС - нельга, і КДБ таксама, і г.д. Шмат жонак



Распоряжение
Президента Республики Беларусь

20 марта 1996 г. № 64 рп  г. Минск

Об упорядочении проверок финансово-хозяйственной деятельности некоторых центральных органов управления и их структурных подразделений

Установить, что проверка финансово-хозяйственной деятельности Аппарата Кабинета Министров Республики Беларусь, Администрации Президента Республики Беларусь, Управления делами Президента Республики Беларусь, Службы безопасности Президента Республики Беларусь, Главного управления государственной охраны при Президенте Республики Беларусь, Министерства обороны, Министерства внутренних дел, Комитета государственной безопасности, Государственного таможенного комитета, Главного управления пограничных войск и их структурных подразделений осуществляется аппаратом Совета Безопасности Республики Беларусь, Службой контроля Президента Республики Беларусь, Прокуратурой, Министерством финансов, а также другими контролирующими органами исключительно по согласованию с Президентом Республики Беларусь.

Президент Республики Беларусь  А.Лукашенко

у Цэзара, цэлы гарэм. Каму можна даверыць гарэм? Маеце рацыю -еўнуху, ці кастрату.

Яшчэ кастрат добра сьпявае тыя ноты, якія нармальны мужык не пацяне. Штосьці нармальнаму мужыку перашкаджае. А яшчэ кастрат помсьлівы і зайздросны да нармальных мужыкоў. І, галоўнае, шляху назад ня мае, вельмі адданы свайму пану.

**СЯРГЕЙ САМАСЕЙ.**

**P.S. Рэдакцыя спрабавала праверыць сапраўднасьць распараджэньня ў афіцыйным выданьні ўказаў прэзідэнта і пастаноў Кабінету Міністраў. Аднак распараджэньне з такімі нумарам і датай у зборніку ўказаў адсутнічае...**

## "ЦЁМНАЯ НОЧКА КУПАЛЬСКАЯ..."

У прыцемках на беразе Нёмана запылала Купальскае вогнішча...

Чацьвёрты год запар сьвядомыя беларусы Горадні праводзяць гэтую імпрэзу. Склаліся ужо і пэўныя традыцыі. Калі вогнішча доўга разгараецца, то і на Беларусі справы ідуць дрэнна. У гэты раз агонь адразу ўзяўся ў поўную сілу. І вянок плыў доўга, аж пакуль не схаваўся за паваротам ракі.

Упершыню таксама за ўсю купальскую гісторыю Горадні была знойдзена Папараць-Кветка. Прычым адразу дзьвюма маладымі парамі.

**Ул.інф.**

## БОЙ СЬМЕЦЬЦЮ І... ПЕНЬСІЯНЕРАМ

**У Горадні абмежаваны гандаль семкамі. Афіцыйна набыць іх можна толькі на Цэнтральным рынку на вуліцы Антонава.**

Па дадзеных каранцінная службы Горадні, у горад рэгулярна завозяцца семкі нізкай якасьці з розных рэгіёнаў былога Саюзу, у тым ліку - з раёнаў, забруджаных радыяцыяй. Сапраўднай бядой гарадзенскіх дворнікаў, прыбіральшчыц ды транспартнікаў стала шалупіньне ад семак, якім засыпаюцца ўсе вуліцы, тратуары, аўтобусы, клубы ды іншыя публічныя месцы.

Кіруючыся усімі гэтымі абставінамі, 18 чэрвеня гарвыканкам прыняў рашэньне гандляваць семкамі толькі ў вызначаных месцах на Цэнтральным рынку. Аднак яшчэ ўчора бойкі гандаль гэтым таварам працягваўся на ўсіх гарадзенскіх мікрарынках. Дапрыкладу, каля ўнівермага на БЛК ніхто пра забарону гандлю тут семкамі ня ведаў. На пытаньне карэспандэнта "Пагоні", што гандляры зьбіраюцца рабіць, калі міліцыя пачне "ганяць" іх з рынку,пеньсіянерка М. адказала: "Тое самае, што робяць гандляры цыгарэтамі ці гарэлкай - прадаваць з-пад плашча. Міліцыя іх ганяе, АМАП ганяе, а кліенты не пераводзяцца".

Разам з кліентамі,напэўна, не пераводзяцца і гандляры. На кожнай 200-грамовай шклянцы семак, якая ўчора каштавала тры тысячы рублёў, тая ж пенсіянерка М. мае каля тысячы рублёў прыбытку. "Каб ня гэтыя грошы - гаворыць яна -прыйшлося б жыць на хлебе і вадзе. Пенсія мізерная, ды і яе са спазьненьнем выплочваюць. А так я магу дазволіць сабе часам купіць сардэлек, ды банан унуку."

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

# СТО ДЗЁН АРКАДЗЯ КАРПУЦЯ

**26 сакавіка новым старшынём абласнога Савету дэпутатаў быў абраны Аркадзь КАРПУЦЬ. Праз сто дзён пасьля гэтай падзеі, 5 ліпеня, прайшла першая яго прэс-канферэнцыя.**

**Вось асноўны зьмест пытаньняў і адказаў, прагучаўшых на ёй.**



***- Чаму на Гарадзеншчыне ў многіх акругах не адбыліся выбары?***

Людзі не ідуць на выбары ў знак пратэсту супраць цяжкага жыцьця. Яны ня вераць у першую чаргу дзяржаве, а ня кандыдатам у дэпутаты.

***- Ці адбудуцца у нас давыбары дэпутатаў?***

У вобласьці не абараны восем дэпутатаў у Вярхоўны Савет (6 у Горадні, 1 у Лідзе і 1 у Смаргонях), 34 - у абласны, 125 - у гарадзкія, 20 - у раённыя і 9 - у сельскія і пасялковыя Саветы. Новыя выбары прызначаны на восень. Зраблю усё, каб яны адбыліся.

***- Вам не здаецца, што Вы і абласны Савет - нагадваеце сёньня ангельскую каралеву і яе двор, якія фармальна ўсім кіруюць, а на справе...***

У пэўнай ступені з гэтай ацэнкай згодны.Роля Саветаў сёньня прыніжана.І насельніцтва і выканаўчая ўлада недаацэньваюць нашае значэньне . Дый самі дэпутаты ў гэтай сітуацыі самі сябе прынізілі. Але наўрад ці зараз на Гарадзеншчыне ці дзе яшчэ на Беларусі знойдзецца чалавек, які павысіць ролю Саветаў. Я таксама зраблю гэта ня ў стане.

***- Бюджэт вобласьці і прагноз яе сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця на 1996 год прымаўся на хуткую руку...***

Згодзен, бюджэт прымаўся позна, аж у траўні. Нават тады, калі яго праект ужо быў аддрукаваны, з Менску ішлі папраўкі і даць своечасова яго дэпутатам для дэталёвага аналізу не было магчымасьці і часу. Пытаньні аб, тым як выконваецца бюджэт, разглядзім на адной з сесій абласнога Савету.

***- Ацэнка дзейнасьці Вярхоўнага Савету?***

Парламант пакінуў без увагі мясцовыя Саветы. У той час як "вертыкаль" рэгулярна зьбіраецца на сходы, нарады у нас такія не практыкуюцца.

***- Як вы ставіцеся да палітычных падзей у Менску. Да зьбіваньня людзей на мітынгах і дэманстрацыях?***

Кожны чалавек мае права выказваць сваю думку. Да неапраўданай жорсткасьці стаўлюся адмоўна.

***-Лёс беларускай школы...***

Мы павінны зрабіць усё, каб яе захаваць. Як грамадзяне Беларусі, мы павінны берагчы і родную мову.

***-Вы былі ў складзе беларускай дэлегацыі, якая падпісвала беларуска-расейскія дамовы аб "Інтэграцыі"...***

Так, і усе, з кім я ў Маскве сустракаўся, выказваліся за падпісаньне гэтых дамоваў, але пры ўмове, што гэта будзе рабіцца не ва ўгоду палітыцы, а на карысьць эканомікі.

***- Стаўленьне да ідэі новага рэферэндуму...***

Прэзідэнт мае права яго ініцыяваць. Каментаваць пытаньні, якія будуць вынесены на рэферэндум, да іх афіцыйнага зацьвярджэньня не хачу.

***- Пасьля ста дзён працы ў абласным Савеце, чаго ў вас больш: аптымізму ці песімізму?***

Я прыйшоў з раёну (сп.Карпуць да абраньня на пасаду старшыні аблсавету ўзначальваў Бераставіцкі райвыканкам. - аўт.) і мне яшчэ цяжка працаваць на абласным узроўні, але аптымізму ў сваёй працы не губляю.

**Запісаў Вітаўт РУДНІК.**

## 15 ліпеня - ДЗЕНЬ ГРУНВАЛЬДЗКАЙ БІТВЫ

***Аўтобусная вандроўка ў Ольштын і на Грунвальд (13-14 ліпеня). Кошт паездкі -160 тысячаў беларускіх рублёў. Зьвяртацца па тэлефонах - 45-29-96 альбо 45-37-10 у пятніцу і панядзелак.***

## У НУМАРЫ:



**• ПРЭЗІДЭНТ і году не прабудзе**

Увазе чытачоў прапануем гутарку нашага карэспандэнта Людвіка ВАЛЫНЦА з прафесарам Іванам НІКІТЧАНКАМ, які прагназуе на верасень сур'ёзны ўсплеск сацыяльнай абуранасьці, што змяце Лукашэнку з "трону"...



**• ТБК, Астанкіна, РТР, С.-Пецярбург, НТБ, Польшча-1, Польшча-2.**




По Гарадзенскай вобласьці 6 і 7 ліпеня чакаецца пераменная воблачнасьць, 6-га месцамі дажджы і кароткатэрміновыя навальніцы, а 7-га пераменная воблачнасьць без ападкаў.

Тэмпература паветра 6 ліпеня: уначы 13-18 градусаў, удзень 25-30 градусаў; 7 ліпеня: уначы 9-14 градусаў 19-24 градусаў.




**• ВЫ ПРАЦУ ШУКАЕЦЕ?**

Рэдакцыя "ПАГОНІ" шчыра хоча Вам у гэтым дапамагчы. Зьвярніце ўвагу, калі ласка, на шостую старонку газеты.



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

ЗАЯВА ГРАМАДЗКАГА (ЦЕНЯВОГА) КАБІНЕТУ ГРАМАДЗЯНСКАЙ АПАЗІЦЫІ ПРЫ НАРОДНЫМ ФРОНЦЕ

## АБ СТАНЕ ЭКАНОМІКІ І НАДЗВЫЧАЙНЫХ МЕРАХ ПА ПРАДУХІЛЕНЬНЮ КАТАСТРОФЫ

Эканоміка Рэспублікі Беларусь, нягледзячы на галаслоўныя заявы кіраўніцтва пра станоўчыя тэндэнцыі, упэўнена набліжаецца да катастрофы...Сітуацыя ва ўсіх сьферах эканомікі будзе пагаршацца, пакуль не зьліквідуюцца прычыны, якія прывялі Беларусь да эканамічнай катастрофы. Яны ня носяць аб'ектыўнага характару і не схаваныя за межамі рэспублікі. Галоўнай з іх зьяўляецца дылетанцкае, непісьменнае ўмяшальніцтва прэзідэнта і яго малакампетэнтнай каманды. Ніводны Указ у галіне эканомікі не прынёс станоўчага выніку, а частка з іх проста згубная для эканомікі. Напрыклад, Указ аб зьліцьці дзяржаўнага ашчаднага банку і акцыянерна-камерцыйнага банку "Беларусь", які перадаў бяз згоды ўкладчыкаў іх сродкі ў распараджэньне крымінальных элементаў. Указ ад 25.01.96г. N31 "Аб удасканаленьні дзяржаўнай грашова-крэдытнай палітыкі" фактычна парушыў створаны ў папярэдні перыяд механізм валютнага рэгуляваньня.У выніку напачатку чэрвеня Беларусь засталася без валютнага рэзерву, а курс долара выйшаў з-пад кантролю. Акрамя гэтага, дадзеным Указам быў уведзены фактычна незаконны дзесяціпрацэнтны падатак на набытую валюту, што зноў павысіла цэны на імпартаваныя тавары і значна зьменшыла аб'ёмы закупак патрэбнай прадукцыі за мяжой.

Указ ад 24.05.96 года N209 вядзе фактычна да ліквідацыі банкаўскай сістэмы, якой прэзідэнт ужо нанёс немалую шкоду. Яго выкананьне прывядзе да поўнага краху фінансавай сістэмы, без якой эканамічнае жыцьцё немагчымае.

Другая прычына - казнакрадства і карупцыя ў вышэйшых эшалонах улады. Толькі адно прэзідэнцкае распараджэньне аб вызваленьні ад плацяжоў фірмы "Торгэкспо" ад 22 лістапада 1995 г. N 230 вывела з бюджэту каля 400 мільёнаў даляраў ЗША. Невядома куды ідуць сродкі ад гандлю зброяй, амаль не трапляюць у бюджэт сродкі за арэнду будынкаў, пасутнасьці самавольна захопленых прэзідэнцкай камандай. Ускоснымі разьлікамі можна акрэсьліць, што яны перавышаюць 100 млн.даляраў ЗША.

Наступная прычына - заганная падатковая сістэма, якая вядзе да штучнага завышэньня цэн у 1,8 - 2,6 раза, за кошт уключэньня ў сабекошт, а ў выніку ў цану прадукцыі ад 7 да 12 падаткаў і абавязковых адлічэньняў у пазабюджэтныя фонды. Акрамя таго, яна прадугледжвае абкладаньне падаткамі тавараў, асабліва харчаваньня, у некалькі разоў. Напрыклад, малако ці прадукты з яго абкладаюцца ўсімі падаткамі ў вытворцы, затым на раённым малаказаводзе і на гарадзкім ці абласным малочным камбінаце. У выніку закупачная цана аднаго літра малака ў вытворцы складае 1700 рублёў, а мы плацім у краме за прадукцыю, атрыманую з гэтага малака, 8,6 і больш тысяч рублёў. Такім чынам накручваецца 6,9 і больш тысяч рублёў на кожным літры малака, што перавышае яго першапачатковы кошт у чатыры разы. Такая сітуацыя мае месца амаль па ўсіх відах прадукцыі. У выніку штучнага завышэньня цэн вырабы беларускіх прадпрыемстваў сталі неканкурэнтаздольнымі, і ствараліся завалы на складах і базах.

Да росту цэн спрычыніўся дагавор аб мытным саюзе з Расеяй. З другой паловы 1995 году на ўсе віды імпартавай прадукцыі ўведзеная мытная пошліна, падатак на дабаўлены кошт і акцызны падатак, што павялічвае цану тавары ў 1,6 раза і больш. Акрамя таго, згодна з пратаколам, па гэтаму дагавору Беларусь адмовілася ад платы за транзыт нафты, газу і розных грузаў расейскіх прадпрыемстваў, а таксама ад плацяжоў за эксплуатацыю ваенных аб'ектаў. Па сярэднеэўрапейскіх мерках бюджэт краіны губляе каля 2,3-2,5 млрд.даляраў у год.

Свой уклад у абрабаваньне насельніцтва і вытворцаў уносяць дзяржпошліны, што спаганяюць дзяржаўныя структуры, якія ўтрымліваюцца за кошт падаткаплацельшчыкаў. Яны аўтаматычна ўключаюцца ў цану прадукцыі і праз падатковую герархію наносяць значную шкоду кожнаму. Гэта далёка ня поўны сьпіс прычынаў, якія прывялі эканоміку Беларусі да катастрофы. Аднак спыніць яе пакуль магчыма пры аператыўнай рэалізацыі наступных надзвычайных мер.

1.Канстытуцыйнаму Суду і Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь неабходна тэрмінова адмяніць пералічаныя і ўсе астатнія указы прэзідэнта, якія парушаюць законы і Канстытуцыю дзяржавы.

2.Адправіць у адстаўку некампетэнтны ўрад і ліквідаваць прэзідэнцкую вертыкаль, як адзін з галоўнейшых рассаднікаў казнакрадства і карупцыі. Разгледзець пытаньне і, калі гэта неабходна, правесьці рэферэндум аб мэтазгоднасьці прэзідэнцкага кіраваньня ў рэспубліцы.

3.Адмяніць усе падаткі і адлічэньні ў пазабюджэтныя фонды, уваходзячыя ў сабекошт, а значыць і ў кошт прадукцыі, якая ляжыць на складах прадпрыемстваў і баз. Гэта дазволіць зьнізіць яе цану ў 1,6-2 разы, зрабіць беларускую прадукцыю канкурэнтаздольнай і прадаваць запасы, што заляжаліся. Прадпрыемствы атрымаюць магчымасьць разьлічыцца з запазычынасьцямі па зарплаце, што адназначна ажывіць рынак.

4.Прадаставіць усім вытворцам, незалежна ад форм уласнасьці, поўную эканамічную свабоду.

5.Вярнуць у бюджэт усе сродкі, адабраныя незаконнымі дзеяньнямі прэзідэнта; сродкі сабраныя ўпраўленьнем справамі прэзідэнта за арэнду дзяржаўных будынкаў, а таксама сродкі, якія паступілі ад продажу зброі. Паводле разьлікаў сьпецыялістаў гэта папоўніць бюджэт на 500-700 млн.даляраў ЗША, што складзе каля 20% даходнай часткі бюджэту. Каб пазьбегнуць разбазарваньня бюджэтных сродкаў у будучым, забраць з распараджэньня ўпраўленьня справамі ўсе незаконна захопленыя будынкі і передаць іх у валоданьне Мінкаммаёмасьці.

6.Адмовіцца ад пратаколу да дагавору аб мытным саюзе з Расеяй і ўвесьці з 1 ліпеня 1996 году плату за транзыт праз тэрыторыю краіны нафты, газу і грузаў незалежна ад іх прыналежнасьці па сярэднеэўрапейскіх коштах. Гэта дае магчымасьць павялічыць даходную частку бюджэту на 2,3-2,5 млрд. даляраў ЗША у год, што складае 80% ад запланаванага даходу на гэты год. Акрамя таго, у метах зьніжэньня цэн на імпартаваныя тавары трэба ўнесьці карэктывы ў дагавор аб мытным саюзе з Расеяй у частцы адзіных мытных тарыфаў і плацяжоў.

7.Увесьці дзяржаўную манаполію на гандаль нафтапрадуктамі, атрыманымі з нафты, якая набыта за кошт бюджэтных сродкаў.

8.Скараціць на 2/3 ворганы дзяржаўнага кіраваньня, што дае эканомію каля 900 млрд. рублёў у год.

9.Скараціць у два разы аб'ёмы фінансаваньня на ўтрыманьне сілавых структур. Эканомія сродкаў складзе 1,4 трлн.рублёў.

10.Вярнуць у дзяржаўную ўласнасьць нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы, нафта- і газаправоды.

11.Пачаць рэалізацыю праграмы эканамічных рэформаў, асабліва ў галіне прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і аграрнай рэформы.

12. Міністэрству працы ў самы кароткі тэрмін распрацаваць дакладную, навукова абгрунтаваную праграму забесьпячэньня занятасьці ў грамадзкай вытворчасьці людзей, якіх скарацілі з працы...

***(Друкуецца з скарачэньнямі)***

## Прафесар НІКІТЧАНКА прагназуе:

# "ГЭТЫ ПРЭЗІДЭНТ І ГОДУ НЕ ПРАБУДЗЕ".

**Увазе чытачоў прапануем гутарку нашага карэспандэнта Людвіка Валынца з адным з стваральнікаў заявы, сябрам грамадзкага Кабінету Міністраў БНФ, доктарам сельскагаспадарчых навук, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі, акадэмікам Міжнароднай акадэміі інфармацыі і інфармацыйных працэсаў, акадэмікам Брытанскага Каралеўскага Аб'яднаньня секцыі натуралістаў, прафесарам Іванам Нікітчанкам.**

***- Пэўны час у сродках інфармацыі адсутнічалі якія-небудзь зьвесткі пра дзейнасьць ценявога Кабінету Міністраў апазіцыі БНФ. Часткова гэта можна было патлумачыць адсутнасьцю зараз і самой апазіцыі БНФ ў Вярхоўным Савеце. Якія прычыны змусілі ценявы Кабінет, а цяпер пад назвай грамадзкі Кабінет Міністраў, зноў заявіць пра сябе, пра сваю працу? З якімі партыямі і арганізацыямі вы супрацоўнічаеце?***

- Так, сапраўды, з красавіка гэтага году мы зноў актывізавалі сваю дзейнасьць. Ценявы Кабінет працаваў і раней, толькі пра сябе неяк не заяўляў шырока ў прэсе. Мы заўсёды кантралявалі сітуацыю, падрыхтоўвалі аналітычныя агляды, мелі свае варыянты выхаду эканомікі з крызісу. Цяперашняя актывізацыя грамадзкага Кабінету Міністраў зьвязана ў першую чаргу з сёньняшнім станам эканомікі, з падзеямі 24 сакавіка, 2 і 26 красавіка. Людзей на вуліцу ў гэтыя дні павялі ня нейкія нацыянал-радыкалы. Павяла іх эканамічная сітуацыя, умовы жыцьця, паводзіны ўладных структураў. Тыя ж структуры адразу пасьля падзеяў вылілі шмат хлусьні і бруду на Народны Фронт. Некаторыя пачалі лічыць, што мы ўсе разышліся і пакінулі працу ў ценявым Кабінеце. Але гэта ня так. Таму Кабінет і актывізаваў сваю дзейнасьць. Пачалі з таго, што на фактах паказалі людзям, хто вінаваты ў дадзенай сітуацыі. Сёньня выйсьці з крызісу немагчыма, але ёсьць магчымасьць спыніць катастрофу. З кім мы працуем? Так, у Вярхоўным Савеце апазіцыя БНФ не існуе, але там ёсьць людзі, якія хочуць зьмяніць эканамічнае становішча, імкнуцца да новага. Я маю на ўвазе фракцыю "Грамадзянскае дзеяньне", і мы з імі кантактуем. Праўда, мы не звужаем кола стасункаў толькі да гэтай фракцыі, мы прапануем свае паслугі ўсім, пачынаючы ад Вярхоўнага Савету і ўключаючы адміністрацыю прэзідэнта. Але для іх нашыя прапановы, як для быка чырвоная ануча. Усё з той простай прычыны, што ў нашай апошняй заяве ёсьць некалькі пунктаў, зьвязаных з прэзідэнтам. Першы - гэта адмяніць усе яго загады, зьвязаныя з эканомікай, яны толькі руйнуюць яе. Другі па тое, што трэба ліквідаваць прэзідэнцкую вертыкаль, якую ў народзе пачынаюць называць "крыміналь". Там сапраўды зараз шмат карупцыі і туды не допускаюцца ніякія кантрольныя ворганы. І, нарэшце, трэці пункт, які тычыцца прэзідэнта, - трэба, каб прэзідэнт вярнуў усё тое, што ён узяў з дзяржаўнага даляраў.

***- Адкуль Вы валодаеце гэтай лічбай?***

- У нас маюцца копіі некаторых дакумантаў. У прыватнасьці, распараджэньне прэзідэнта пра вызваленьне фірмы "Торгэкспо" ад плацяжу мытнай пошліны, ад падатку на дабаўленую вартасьць і акцызы. Мы маем копію контракту на 500 млн.даляраў з так званай Фінскай фірмай. Толькі гэты кантракт па самым мінімуму, улічваючы, што завозілі ў асноўным гарэлку, даў ужо каля 400 млн. даляраў. Далей ідзе гандаль зброяй. І, нарэшце, упраўленьне справамі прэзідэнта. Мы ведаем, колькі будынкаў перададзена гэтаму ўпраўленьню, насуперак усялякім законам, і ведаем, колькі каштуе там квадратны метр.

***- Вы сказалі, што грамадзскі Кабінет Міністраў кантралюе сітуацыю. Зараз вельмі моцны спад мае крэдытна-фінансавая галіна. Вашыя меркаваньні: з чым гэта зьвязана ў першую чаргу? Наколькі гэта мае сувязь з сыходам з пасады старшыні Нацыянальнага Банку сп.С.Багданкевіча?***

- Я не магу падзяліць першую і другую часткі пытаньня, таму што сыход сп.Багданкевіча - гэта было наступства той самай прычыны, якая прывяла да развалу нашай эканомікі. Разбураць эканоміку пачалі пры сп.В.Кебічу. Каманда, якая была ў сп.Кебіча, засталася і ў сп.А.Лукашэнкі. Дзяліць Кебіч-Лукашэнка нельга, але сп.Лукашэнка ускладніў становішча. Канешне, галоўная прычына крызісу - гэта адсутнасьць рэформаў. Зараз у нас склаліся ўмовы, якія рэалізуюць асноўны прынцып камунізму. На слоўніку Даля, камунізм - гэта палітыка, якая рэалізуецца ў асноўны прынцып, права кожнага на чужое. Гэта прынцып часта рэалізоўваўся на Беларусі з 1990 па 1996 гады. Тут захаваліся ўмовы нічыйнай маёмасьці пры поўнай абыякавасьці тых, хто мае да яе адносіны, і поўнай бескантрольнасьці выкарыстаньня. Я ня ведаю, як па прамысловасьці,а па сельскай гаспадарцы раскрадзена рэсурсаў дзесьці на 12 млрд. даляраў. Здаецца, горш няма куды, але будзе яшчэ горш, таму што апошняе будзе расьцягвацца нават без магчымасьці адбудовы.

***- Сярод некаторых палітыкаў існуе такая думка, што прэзідэнт А.Лукашэнка пратрымаецца на пасадзе толькі да вясны наступнага году. Які Ваш прагноз? Як далей будуць разгортвацца падзеі? Найбліжэйшыя планы грамадзкага Кабінету Міністраў?***

- Што тычыцца першага пытаньня - прагнозу - я б хацеў , каб пасады прэзідэнта не было. Што нашай краіне було мала ўладаў? Гэту пасаду спарадзіла былая камуністычная наменклатура. Я прагназую, што гэты прэзідэнт і году не прабудзе. І вось чаму. Эканамічнае становішча складваецца так, што многія ў ліпені не атрымаюць ужо заробкі, грошы на адпачынак, пеньсіі. Чаму? Ды з той простай прычыны, што ў казьне няма грошай.

***- А калі ўключыць станок для друкаваньня грошай?***

- Кожны рубель, надрукаваны сёньня на станку, забярэ заўтра з кішэні таго, хто атрымае, тры.

***- Гэта разумееце Вы, разумеюць тыя, хто цікавіцца эканомікай, але не заўсёды разумеюць тыя, каго ў нас прынята называць "просты народ".***

- І гэты просты народ хутка зразумее. Яго прымусіць сітуацыя. Справа ў тым, што бюджэт гэтага году, спланаваны вельмі кепска. За мінулы год бюджэт не выкананы быў працэнтаў на 25. І з жніўня стварылася тэндэнцыя недаплатаў. У гэтым годзе ўсё больш жабракоў, якія павінны плаціць падаткі, але плаціць няма каму. Даходная частка бюджэту планавалася на 68 працэнтаў з падаткаў людзей, якія і без таго знаходзяцца ў жабрацкім стане. Гэтыя розная роду падаткі праз цэны набылі характар ускоснага пабору з насельніцтва. У людзей грошай няма, заводы стаяць. Па выніках пяці месяцаў сабралі толькі 50 працэнтаў з таго, што планавалі, а выдаткі былі 100-працэнтовыя. І практычна ў ліпені будзе выдатакваны апошні рубель, які мог бы паступіць такімі тэмпамі толькі ў сьнежні. Значыць, краіна пачне жыць у пазыку альбо пад станок. Але адразу папаўзуць цэны і ўступіць у дзеяньне інфляцыйны тупік. І тады гэта зразумее і адчуе кожны. Я думаю, што сур'ёзны ўсплеск сацыяльнай абуранасьці прыпадзе на верасень, і ў выніку зьмяце прэзідэнта.

Ценявы Кабінет будзе і надалей адсочваць становішча ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Будзем рыхтаваць варыянты для таго, хто паспрабуе вывесьці краіну з крызісу, а пры неабходнасьці можам "выйсьці з ценю".

## ФЕМІДА ПАВІННА РАЗЬВЯЗАЦЬ САБЕ ВОЧЫ!

Кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" выказала сваё глыбокае абурэньне з прычыны злачыннага нападу на кватэру журналіста, карэспандэнта радыё "Свабода", намесьніка дырэктара Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў сп. Юрыя Дракахруста. "Не спадзяючыся на аб'ектыўнае і поўнае расьследаваньне гэтага злачынства з боку вярхоўнага беларускага правасуддзя , - гаворыцца ў заяве распаўсюджанай 24 чэрвеня - зьвяртаем увагу журналістаў, грамадзкасьці Беларусі і замежных краінаў на новыя формы дзейнасьці сілаў, якія супрацьстаяць дэмакратыі ў нашай краіне. Зьбіцьцё мірных дэманстрантаў у Менску, стрэл у машыну дэпутата В.Ганчара, зьдзек над жонкай вядомага няўрадавага публіцыста - гэта зьвёны аднаго ланцугу, вынік прававога нігілізму сёньняшняй выканаўчай улады Беларусі, якая пагрозай фізічнай расправы спрабуе ўсталяваць свой "новы парадак". Прадстаўнічая ўлада разам з Канстытуцыйным Судом павінны пакласьці канец антызаконным, крымінальным дзеяньням ініцыятараў і стваральнікаў такога "парадку". Прававыя актыўныя дзеяньні ў гэтым накірунку атрымаюць рашучую падтрымку ўсіх дэмакратычных сілаў нашай дзяржавы.

# МІНА ДЛЯ ПРЭЗІДЭНТА

**На мінулым тыдні Вярхоўны Савет прыняў дапаўненьні ў Крымінальны Кодэкс Рэспублікі Беларусь. Адно з іх тычыцца такога злачынства, як злоўжываньне ўладаю, якое вядзе да невыкананьня законаў нашай краіны. Другое - уводзіць у Кодэкс новы склад злачынства - прымусовыя дзеяньні, накіраваныя на невыкананьне пастаноў Канстытуцыйнага Суду.**

Дадаткі ў Крымінальны Кодекс - надзвычай важная падзея ў жыцьці краіны. Цяпер у тэксьце крымінальнага закону чорным па беламу запісана папярэджаньне: той, хто будзе нахабна ігнараваць законы, свавольнічаць і папіраць чалавечыя правы, будзе пакараны пазбаўленьнем волі. Дастаткова высокія санкцыі (да 6-ці гадоў) гавораць яшчэ пра адно: даўнасны тэрмін гэтага злачынства доўжыцца ажно 10 гадоў. Такім чынам ёсьць рэальная пагроза для "вертыкальшчыкаў", бо ініцыятар папраньня законаў можа сысьці ў нябыт, а службовыя злачынствы, якія яны здзейсьнілі, бяздумна выконваючы яго волю, будуць дзесяцігодзе вісець над імі дамоклавым мячом. Наяўнасьць такога закону, упэўнены, дасьць вялікі імпульс "вертыкальшчыкам" паразважаць над сваім лёсам і падумаць, у якую пастку гоніць іх прыхільнік "нямецкага парадку".

Трэба адзначыць, што і раней Крымінальны Кодэкс расцэньваў наўмыснае невыкананьне законаў як перавышэньне ўлады. Аднак, шэраг момантаў дазваляў ігнараваць адпаведны артыкул Кодэксу. Па-першае, поўная адсутнасьць падобнай практыкі ў мінулыя гады ствараla ситуацыю прававога працэдэнту, пры якім да чынавенства гэты артыкул не ўжываўся (самае большае, маглі асудзіць участковага за зламаную скіўцу якога-небудзь дзядзькі). Па-другое, сёньняшняя сітуацыя зусім ня сьведчыла пра тое, што прэцэдэнт будзе зьменены ("Я вызвалю вас ад такой хімеры, як сумленьне", - А.ГІТЛЕР).

Цяпер - іншая справа. Існуе закон прамога дзеяньня, які практычна нельга тлумачыць неяк інакш, чым так, як у ім запісана. Цяпер пракурор, суд, ворган дазнаньня павінны ўзбудзіць крымінальную справу, калі будзе ўстаноўлены факт невыкананьня законаў і пастаноў Канстытуцыйнага Суду. Калі пракурор ня будзе гэтага рабіць, ён сам трапляе у якасьці суб'екта пад дзеяньне новага закону.

Як вам гэта сітуацыя? Дадайце яшчэ тое, што дзейнічае неадмененае распараджэньне прэзідэнта не выконваць пастановы Канстытуцыйнага Суду, і вы можаце ўявіць, наколькі далікатным трэба быць дзяржаўнаму служачаму, каб не памыліцца адносна сваёй будучыні.

Што тычыцца Прэзідэнта Беларусі, дык і яго новыя артыкулы Крымінальнага Кодэксу б'юць пад дых. Невыкананьне законаў і пастаноў Канстытуцыйнага Суду, які даказвае парушэньне законаў Прэзідэнтам, могуць быць ацэнены цяпер адназначна - адбываецца злачынства (яго называюць злачынны стан, бо доўжыцца ўвесь час, пакуль парушаюцца законы). Зьдзейсненая злачынства ёсьць канстытуцыйная падстава для імпічмэнту Прэзідэнта.Момант для узбуджэньня працэдуры імпічмэнту можа настаць калі заўгодна - хоць заўтра ці ў наступны панядзелак.

Прэзідэнт гэта добра ведае, пра што сьведчыць замоўчваньне альбо зьнішчальная крытыка Вярхоўнага Савету ў афіцыйнай прэсе. Ад часоў пасланьня Кастытуцыйнага Суду ў пачатку гэтага году прэзідэнт не атрымоўваў такіх удараў у прававой сьферы. Трэба адзначыць, што ў атачэньні Прэзідэнта заўсёды недаацэньвалі значэньне юрыдычных пытаньняў і дзейнічалі па прынцыпу Мікіты Хрушчова: "Я сказаў, што тут будзе расьці кукуруза - і яна будзе расьці!". Аднак "кукуруза не расьце." І калі нельга зрабіць імпічмэнт за "запуск заводаў" і "аднаўленьне парушаных сувязяў", то за парушэньне законаў - прасьцей простага.

"Пагоня" ўжо пісала пра тое, што наменклатура старой загартоўкі будзе змагацца за свае правы і не дазволіць сваволства ў адносінах да сябе. Міну пад прэзідэнта яна падклала сьціпла і бяз шуму. Узарваць яе - пытаньне мэтазгоднасьці.

Прагназаваць разьвіцьцё падзеяў немагчыма. Вядома толькі тое, што сіла дзеяньня нараджае сілу супрацьдзеяньня.

**Сяргей САМАСЕЙ.**




# ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН ЗЛУЧАЮЦЦА

**У хуткім часе павінна адбыцца паездка прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі ў Парыж. Прафсаюзы Францыі маюць намер выставіць пікет у час прыбыцьця беларускага прэзідэнта.**

Падобнае абяцаньне кіраўнікі французкіх прафсаюзаў зрабілі ў Брусэлі, дзе праводзіўся XVI зьезд Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў (МКСП). На гэты час канфедэрацыя аб'ядноўвае прафсаюзы 120 краін сьвету. У працы зьезда прынялі ўдзел Генадзь Быкаў - старшыня Свабоднага беларускага прафсаюзу і Сяргей Іўчын - прэзідэнт Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў. Зьезд МКСП - даволі рабочая зьява. Тым больш значным зьяўляецца той факт, што беларуская дэлегацыя апынулася на некаторы час у цэнтры ўвагі зьезду.

Гэтаму паспрыялі тыя падзеі, што адбыліся ў Беларусі: шэраг апазіцыйных шэсьцяў, затрыманьне лідара "Салідарнасьці". На зьездзе Г.Быкавым быў распаведзены выпадак стрэлу ў машыну дэпутата Гончара. Тады і ўзьнікла жаданьне прадстаўнікоў французкіх прафсаюзаў "дастойна" сустрэць беларускага прэзідэнта.

"... нашы сродкі масавай інфармацыі перадалі, што прэзідэнт мае афіцыйны візіт і сустракаецца на самым высокім узроўні. Гэта, відаць, не так, бо 14 ліпеня - угодкі Ўзяцьця Бастыліі, і на гэта сьвята яны запрашаюць увесь мір",.. - гаварыў Генадзь Быкаў. - "Калі Лукашэнку сустрэнуць на высокім узроўні, яны, тым самым, падтрымаюць яго палітыку, і гэта можа дрэнна адбіцца на дзеяньнях улад у Беларусі".

На зьездзе Генадзь Быкаў распавёў, таксама, пра намер прэзідэнта усталяваць кантроль за ўездам-выездам з Беларусі. Па словах Быкава, гэта было ўспрынята прафсаюзамі як нешта неверагоднае.

Старшыня свабоднага прафсаюзу меў сустрэчу з вышэйшым кіраўніцтвам МКСП, у прыватнасьці з генеральным сакратаром Білам Джордалам. Той паабяцаў, што сітуацыя ў Беларусі будзе пад неаслабным кантролем. МКСП праз Міжнародную Канфедэрацыю Працы дамагалася прыняцьця 10 рэкамендацый да беларускага ўраду, за выкананьнем якіх яна будзе пільна сачыць і рэгулярна нагадваць пра неабходнасьць іх выкананьня.

Бліжэйшым часам КМСП акажа дапамогу новаўтвораным дэмакратычным прафсаюзам Беларусі і правядзе семінар на тэму пільнасьці прафсаюзаў ва ўмовах недэмакратычных рэжымаў. Калі, канешне, гэты семінар не абарвецца выдварэньнем лектараў з краіны, як гэта было з Мар'янам Кшаклеўскім.

**Алесь ХМЯЛЬНІЦКІ.**

# НА ТЭМПАХ НЕ АДАБ'ЕЦЦА

У Горадні спынена фінансаваньне будаўніцтва аўтаматызаванай телефоннай станцыі на дзесяць тысячаў нумароў. Днямі гарвыканкам прыняў рашэньне ўключыць гэты будынак у пералік аб'ектаў, падлягаючых у 1996 годзе прыватызацыі.

Яшчэ адной падставай для гэтага рашэньня стала заява абласнога ўпраўленьня сувязі, што дадзены будынак для тэлефанізацыі горада не патрэбны.

Як запэўнілі нас ва ўпраўленьні сувязі, спыненьне будаўніцтва гэтай АТС ніяк не адаб'ецца на тэмпах тэлефанізацыі ў Горадні.

# ВАДА ПА ЛІМІТУ

**Усяго тры разы на тыдзень будуць мець у сваіх кватэрах гарачую ваду жыхары Маладэчна.**

Чарговая сесія гарсавету Маладэчна, якая адбылася напрыканцы чэрвеня, была прысьвечаная пытаньням санітарна-экалагічнага стану занятасьці насельніцтва і крымінальнай сітуацыі ў горадзе.

Невясёлую навіну пры разглядзе першага пытаньня паведаміў дэпутатам старшыня гарвыканкаму С.Татарыновіч. Згодна з паступіўшым нядаўна загадам Кабінету Міністраў, у Маладэчне пераходзяць на трохдзённы графік падачы гарачай вады. Праблемы з адсутнасьцю гарачай вады да гэтага часу і так мелі тры чвэрці маладэчанцаў. Паводле словаў сп. Татарыновіча, Расея патрабуе ад нашага кіраўніцтва тэрміновай аплаты запазыкі за спажываньне газу. У адваротным выпадку магчыма поўнае прыпыненьне падачы газу на Беларусь.

Не ратуе дэпутатаў і крымінагенная сітуацыя ў горадзе. У параўнаньні з мінулым годам злачыннасьць павялічылася на 8,8%. Раскрываецца ў Маладэчне ўсяго 58% злачынстваў.

Дзіўную абыкавасьць большасьці "слугаў народу" (у асноўным кіраўнікоў дзяржаўных і камерцыйных структур) выявіла пытаньне аб беспрацоўі і занятасьці насельніцтва. Прынамсі, не было чуваць прапановаў па стварэньню механізму адкрыцьця новых працоўных месцаў, хаця б для тых 3320 беспрацоўных, якія ўжо зараз зарэгістраваныя на месцовай біржы працы. Затое большасьці дэпутатаў не давалі спакою лаўры папулярнага булгакаўскага героя з яго няўрымсьлівай барацьбой з бадзяльмі сабакамі. Разгляду гэтага пытаньня была прысьвечаная ільвіная доля сесіі.

**Алесь ЦАДКО.**

# ПРАДАЛІ "РОДНУЮ СПАДЧЫНУ"

У Менску адбыўся адзінаццаты аўкцыён па продажу камунальнай маёмасьці. Ён праведзены сталічным гарадзкім камітэтам па кіраваньню дзяржмаёмасьцю і прыватызацыі сумесна з Міжнароднай фінансавай карпарацыяй. Адзіным аб'ектам, які арганізатарам аўкцыёну ўдалося прадаць, стаў рэстаран "Родная спадчына".

У спадчыну ад рэстарана гарадзкі бюджэт атрымаў 1 млрд. 187 мільёнаў рублёў.

# СМАРГОНЬ ЗРАБІЛА ЗАЎВАГУ

**На мінулым тыдні ў Смаргоні адбылася чарговая сесія Смаргоньскага гарсавету, на якой разглядалася пытаньне аб удзеле прадпрымальніцкіх структураў у мясцовым жыцьці.**

На сесіі адзначаны звышкрытычны стан эканомікі Смаргоні. Афіцыйнае беспрацоў'е дасягнула лічбы 8%, што амаль утрая перашывае агульнадзяржаўны ўзровень. Звароты ў цэнтральныя дзяржаўныя ворганы аб выратаваньні Смаргонскага заводу аптычнага станкабудаваньня і аграгатнага заводу ніякага плёну не даюць. Цэнтр зацыкліўся на Расеі і дае дапамогу ў выглядзе рэкамендацый: калі на выбарах 3 ліпеня пераможа Ельцын, то стварайце сумесныя беларуска-расейскія прадпрыемствы з удзелам прыватнага расейскага капіталу, а калі Зюганаў, то такія ж прадпрыемствы, але з удзелам дзяржаўнага капіталу.

Што тычыцца незаконнага патрабаваньня падаткавай інсьпекцыі аб унясеньні прадпрымальнікамі ў бюджэт звыш нормы па 4 мільёны рублёў падаткаў, то старшыня Смаргонскага гарвыканкаму І.І.Рак растлумачыў, што рэкамендацыя спагнаць дадзеныя сумы выходзіць ад Галоўнай дзяржаўнай падаткавай інсьпекцыі з Менску ў якасьці мерапрыемства па выратаваньню дзяржаўнага бюджэту. Начальнік падаткавай інсьпекцыі Смаргонскаму раёну папярэджаны, што службовы запал трэба зьдзяйсьняць у межах закону і не пераўтвараць рэкамендацыі ў дзяржаўны рэкет.

Па прапанове дэпутатаў ад БНФ Савет аднагалосна ўключыў у рашэньне пункт, згодна з якім адзначаны адмоўныя эканамічныя наступствы дзеяньняў адміністрацыі прэзідэнта, якая амаль чатыры месяцы таму прыпыніла рэгістрацыю новых прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў, выдачу ліцэнзій. Хаця гэты пункт і не зьяўляецца нейкім звышрадыкальным, а толькі канстатуе факт, але старшыня гарвыканкаму, як стойкі "вертыкальшчык", намагаўся пераканаць прысутных прыняць гэты пункт у больш згладжанай рэдакцыі.

**Алесь ДЗЕРГАЧОЎ.**

# ВУЧЫЦЦА НЯ ПОЗНА

Дэпутаты Вярхоўнага Савету краіны і прадстаўнікі Міністэрства па кіраваньню дзяржаўнай маёмасьцю і прыватызацыяй прынялі ўдзел у семінары па малой прыватызацыі, які прайшоў у Воршы.

Семінар праводзіўся ў межах праграмы эканамічнай вучобы народных абраньнікаў.

# ЗААХВОЧВАЮЦЬ

Трэцяга ліпеня ў Віцебску прайшоў семінар для прадпрымальнікаў недзяржаўных прадпрыемстваў. Арганізавалі яго Упраўленьне камунальнай маёмасьці і прыватызацыі гарвыканкаму і Асацыяцыя недзяржаўных прадпрыемстваў Віцебскай вобласьці.

Семінар меў на мэце паскарэньне працэсаў малой прыватызацыі ў вобласьці.

**В.ДРЭМА.**

# ТОЙ ХТО КУРЫЦЬ "ЭЛ ЭНД ЭМ", АТРЫМАЕ... "АЙ БІ ЭМ" ?

У Горадні новы ажыятаж. Аўтар - сусьветна вядомая фірма "Філіп Морыс", якая праводзіць рэкламную латарэю пад дэвізам "Выйграйце вандроўку ў Амерыку з L&M!" Для таго, каб удзельнічаць у латарэі, трэба даслаць у Менск фірмовы канверт, у які ўкласьці 3 адрэзаныя вечкі ад цыгарэтных пачкаў. Пераможцу абяцаюць дзесяць дзён у Нью-Ёрку, Сан-Францыска, а ў Лас-Вегасе - мяшок гульняльных жэтонаў.

На адваротным баку фірмовага канверта, які рэкламуе прызы латарэі, зьмешчаны маленькімі літарамі некаторыя ўмовы, якія выстаўляе "Філіп Морыс". Так, напрыклад, паклапаціўца пра амерыканскую візу прыйдзецца шчасьліваму пераможцу самому, таксама як і пра страхоўкі і г.д. А яшчэ "Філіп Морыс" чамусьці пакідае за сабой права выкарыстоўваць інфармацыю пра ўдзельнікаў латарэі (імя, адрас).

Але хай турбуюцца пераможцы. Пакуль жа ў горадзе ня знойдзеш ніводнай пачкі "Л&М" з крышкай. У прыёмны пункт латарэі каля гарадзенскага ўнівермага выстройваецца чарга.

**С.С.**

# НАВАСЕЛЬЛЕ СЬПЕЦШКОЛЫ

На баланс гарадзенскага аддзела адукацыі перададзены дзіцячы садок N 35. Па рашэньню гарвыканкаму, у гэтым будынку разьмесьціцца філія сьпецшколы N 4. Зараз гарадзкія ўлады шукаюць сродкі, каб да пачатку новага навучальнага году скончыць у былым садку ўсе рамонтныя работы.

**В.М.**

# ДОСЬВІТАК НАШАГА АДРАДЖЭНЬНЯ

**Гарадзеншчына вядома тым, што дала беларускай культуры шмат славутых дзеячаў. Так, у засьценку Малюшычы Навагрудзкага павету (зараз у Карэліцкім раёне) 17 чэрвеня 1796 году нарадзіўся Ян Чачот - вядомы беларускі і польскі паэт, фалькларыст, мовазнаўца.**

Бацька Яна Чачота быў дробным шляхціцам, які арандаваў маёнткі. Ян вучыўся спачатку ў Навагрудку, у дамініканскай школе разам з будучым геніем літаратуры Адамам Міцкевічам, а потым разам з ім паступіў у Віленскі універсітэт. Вось што пісаў аб сябрах іх зямляк і таварыш па вучобе Ігнат Дамейка: "Два нашы студэнты Наваградзкай школы з дзіцячых гадоў добра ведалі народ, палюбілі яго песьні, пранікліся духам і паэзіяй. Гэтаму, відаць, садзейнічала тое,што невялікае мястэчка Наваградак у той час мала чым адрозьнівалася ад нашых вёсак, і жыцьцё ў ім было па сутнасьці сялянскім. Сябры хадзілі па кірмашах, бывалі на вясковых вясельлях, дажынках. Яшчэ ў школе народныя песьні запалілі ў душах сяброў першае паэтычнае натхненьне".

З-за матэрыяльных цяжкасьцяў Ян Чачот праз год пасьля паступленьня вымушаны быў пакінуць універсітэт і пайсьці на службу ў пракуратурыю Радзівілаўскіх памесьцяў". Аднак сувязяў са студэнцтвам не парываў. Ён стаў адным з кіраўнікоў тайных аб'яднаньняў філаматаў і філарэтаў. На паседжаньнях таварыстваў выступаў са сваімі беларускімі вершамі і песьнямі: "Едзе міленькі Адам", "Ды перастаньце горла драць" і іншымі. 19 сакавіка 1819 году была паказана драматычная сцэнка "Імяніннае віншаваньне", напісаная Чачотам у гонар Ю.Яжоўскага. Гэты твор быў стылізаваны пад народныя песьні, якіх, па сьцьвярджэньню аўтара, існуе столькі ж, колькі рыбы ў Нёмане.

У 1823 годзе пачаліся арышты членаў тайнага таварыства. Арыштавалі і Чачота. Аднойчы пад час сьледства, прадбачаючы лёс сваіх таварышаў,Чачот засьпяваў складзеную ім на беларускай мове песьню:

"Ды ляцяць,ляцяць ды дзікія гусі,

Ды нас павязуць да далёкай Русі".

Яго выслалі ў Кізіл, дзе ён паўгода правёў у турме, а затым перавялі ў Уфу. Служыў Ян Чачот у канцылярыі арэнбургскага губернатара, займаўся пісьменазнаўствам. Знаходзячыся ў ссылцы, Чачот працягвае зьбіраць этнаграфічныя і фальклорныя матэрыялы. Некаторую частку з сабранага ён пераслаў свайму сябру і таварышу па ўніверсітэту, вядомаму Восіпу Кавалеўскаму, які жыў у Казані.

На жаль, гэтыя матэрыялы прапалі ў час разгрому кватэры Кавалеўскага казакамі ў 1863 годзе.

У 1831 годзе Чачота перавялі ў Цьвер, а праз два гады ў Лепель (Віцебская вобласьць) ва ўпраўленьне інжынераў Бярэзінскага канала. Толькі ў 1841 годзе ён змог нарэшце вярнуцца на родную Навагрудчыну, дзе стаў служыць бібліятэкарам у багатай бібліятэцы графа Храптовіча ў маёнтку Шчорсы. У гэтыя ж гады Ян Чачот апублікаваў больш тысячы народных песень. Асноўнае



месца ў спадчыне Чачота займаюць фальклорныя зборнікі, выдадзеныя ў Вільні ў 1837-1846г.г. У іх зьмешчаны запісы на беларускай і польскай мовах. Амаль усе зборнікі пачынаюцца з прадмовы, у якой аўтар адзначае характэрныя асаблівасьці і беларускай мовы,і беларускага фальклору. Чачот і сам пісаў вершы на беларускай мове, прычым большасьць з іх стылізаваны пад народныя песьні. У зборнік 1844 году ўключана 28 такіх твораў.

Памёр Ян Чачот 11 жніўня 1847 году ў Друскеніках ў беднасьці. Сябры пахавалі яго ў суседнім сяле Ратніца.

**Ю.ШАСТАК, старшы навуковы супрацоўнік Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея.**

# ВАЙНА ЯШЧЭ З АДНАГО БОКУ

22 чэрвеня споўнілася 55 гадоў з пачатку вайны паміж фашысцкай Германіяй і сталінскім Савецкім Саюзам. Беларусі ў гэтай вайне адводзілася роля кавалачка карты, па якой праляглі чырвоныя і сінія стрэлы танкавых удараў і пяхотных маршаў. Беларусам міласьціва дазвалялася памерці за тых ці іншых. Але часткі беларусаў было наканавана памерці за трэціх. Аляксандр Жалкоўскі з Ліды прыпадняў заслону над лёсам нашых землякоў, якія змагаліся з фашызмам у корпусе Андарса. Як вядома, корпус Андарса фармаваўся ў Савецкім Саюзе з інтэрнаваных у 1939 годзе польскіх вайскоўцаў, сярод якіх было шмат жыхароў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.

Гэты корпус, праз Іран быў перакінуты спачатку ў Паўночную Афрыку, а пасьля ў Італію. Менавіта там корпус правёў сваю галоўную бітву. 18 траўня 1944 года жаўнеры корпуса штурмам узялі ўмацаваны немцамі кляштар на гары Монтэ-Касіна. Там пад праваслаўным крыжам спачывае юнак з-пад Ваўкавыска Аркадзь Міклашэвіч, родны брат Ларысы Геніюш.

Аляксандр Жалкоўскі ўстанавіў прозьвішчы і імёны нараджэнцаў Лідзкага павету, якія навечна засталіся ў камяністых магілах пад Монтэ-Касіна.

Гэта: Аркадзь Барысевіч, Уладзіслаў Цыноўскі, Бярнард Чарнавус, Антон Хвайніцкі, Юзаф Філіпчык, Вітольд Гражынскі, Юльян Лебядзевіч, Кастусь Астрэйка, Ян Самтоцкі, Станіслаў Сташэўскі, Уладзіслаў Шурней, Адам Учкароніс.

Безумоўна, што гэтыя героі маюць ні меней правоў на ўсенародную памяць і ўшанаваньне, чым тыя, хто загінуў на ўсходніх франтах.

**СТАНІСЛАЎ СУДНІК.**

# СЬВЕДКА НЯ ТОЛЬКІ СІВОЙ ДАЎНІНЫ...

**Шмат жахлівых падзей пабачыў на сваім вяку Мірскі замак - помнік архітэктуры пачатку XVI-XVIII стагоддзяў. Ніводная з войнаў не абыйшла яго сьценаў. У 1656 годзе пад час ваенных дзеяньняў замак упершыню быў разбураны. Зноў агонь вайны плавіў цэглу яго сьценаў у 1706 годзе, калі ў Мір увайшлі войскі Карла XII. Не абыйшла яго і Айчынная вайна 1812 году.**

У гады Другой сусьветнай вайны 1941-1945 гадоў замак стаў сьведкам больш трагічных падзей. 28 чэрвеня 1941 году ля яго сьцен фашысты расстралялі былога дырэктара Мірскай школы Ганну Іванаўну Сташэўскую і яе брата Леаніда, а таксама жыхара Міра Мікалая Галабурду. Перад расстрэлам іх прымусілі выкапаць сабе магілу.

Зьвярыная сутнасьць заваёўнікаў праявілася ня толькі ў генацыдзе беларускага народу. Яны ператварылі старажытны замак у турму і гета для яўрэйскага насельніцтва. У жніўні 1942 году вязьні гета, акрамя тых нямногіх, каму ўдалося ўратавацца, былі вывезены ва ўрочышча Яблонаўшчына і там расстраляны.

Карэліцкая райгазета "Полымя" зьмясьціла на сваіх старонках рэдкі трафейны фотаздымак, які зараз захоўваецца ў экспазіцыі раённага музея "Зямля і людзі" у зале, прысьвечанай падзеям Вялікай Айчыннай. Фашысцкі фотааматар адлюстраваў на фоне Мірскага замку вайсковую аўтакалону гітлераўцаў. Няма сумневу, што захопнікі спыніліся тут для таго, каб палюбавацца хараством гістарычнага помніка сярэднявечча. Бо на другім плане фота выразна бачны аўтафургон, што падагнаны да ўваходу ў замак...

Здымак гэты быў зроблены 6 ліпеня 1941 году, праз дзесяць дзён пасьля таго, як немцы захапілі мястэчка Мір...

**Л.ЯСЕНЬ**

# ЛЮДВІКА НАРБУТА ЗАБІЛІ ЯШЧЭ РАЗ

**17 чэрвеня вечарам у Лідзе зьліквідавана мемарыяльная дошка Людвіку Нарбуту, герою паўстаньня 1863 году, паплечніку Кастуся Каліноўскага, кіраўніку паўстаньня на Лідчыне. Людвік Нарбут, акрамя таго, што кіраваў паўстаньнем, некалі вучыўся ў лідзкай школе піяраў. Таму ў 1938 годзе на касьцёле піяраў у непасрэднай блізкасьці да старога будынка школы да 75-х угодкаў паўстаньня і была ўстаноўлена дошка.**

Пасьля вайны з касьцёла зрабілі планетарый. Па загаду ксяндза дошку затынкавалі да лепшых часоў. Лепшыя часы наступілі ў 1980 годзе, калі першы сакратар Лідзкага гаркаму партыі сп. Папова і вырашыла адсьвяткаваць 600-годдзе Ліды, хоць ніяк гістарычна не абгрунтаванае, але па-бальшавіцку пампезнае. Дошку адтынкавалі, але часы з лепшых зноў сталі горшымі і яе зноў замазалі. У пачатку 90-х часы яшчэ раз палепшалі і дошку зноў адкрылі, павесіўшы пад нізам і беларускі варыянт тэксту. Сёмага сакавіка 1996 году ў выніку змовы паміж мітрапалітам Філарэтам і біскупам Кашкевічам з мэтай задушэньня першага на Беларусі прыходу Беларускай народнай царквы планетарый быў перададзены гарадзкімі ўладамі пад праваслаўны сабор сьв. Міхаіла. Першай ахвярай новага настаяцеля сабора Аляксандра стала дошка з беларускім тэкстам, якая неадкладна была зьнята, што выклікала абурэньне грамадзкасьці горада. Кіраўнікі сямі грамадзкіх арганізацый і палітычных партый зьвярнуліся да мэра горада, міністраў культуры і адукацыі з патрабаваньнем выратаваць помнік гісторыі і культуры рэспубліканскага значэньня ад ваяўнічага праваслаўя. Сёмага траўня Ліду наведаў прадстаўнік Дзяржаўнай інсьпекцыі па ахове нацыянальнай спадчыны Мікалай Латан. Адбылася сустрэча ўсіх зацікаўленых бакоў, на якой было прынята рашэньне аб недатыкальнасьці дошак, як частак помніка. І вось 17 чэрвеня, як вынік гэтага рашэньня, некалькі "сьвятых айцоў" і недавучаных семінарыстаў Жыровіцкай семінарыі ўвечары па зладзейску выселкі са сьцяны кавалак вагой кілаграмаў у 200-300 разам са шматпакутнай дошкай. Матывацыя: Нарбут бунтаваў супраць памазаніка божага (цара) і забіваў праваслаўных (царскіх карнікаў).



Варварства выклікала хвалю абурэньня. Грамадзкія арганізацыі зьвярнуліся да гарадзкіх уладаў, пракурора горада, амбасадара Польшчы і польскага консула ў Горадні. Становчага выніку, безумоўна, ніхто не чакае. У антыбеларускай краіне выратаваць беларускія сьвятыні немагчыма. Разам з тым ёсьць і вынік. Польскія грамадзкія арганізацыі, магчыма ўпершыню, выступілі з рэзкай крытыкай згодніцкай пазіцыі каталіцкага сьвятарства горада. Ставіцца пытаньне пра тутэйшы касьцёл, з тутэйшымі сьвятарамі, якія б дбалі пра тутэйшы народ, а не пагражалі недапушчэньнем да прычасьця кожнага, хто хоць слова скажа супраць перадачы планетарыя. У наяўнасьці першапрычыны да ўзьнікненьня канфлікту паміж богабаязнай каталіцкай паствай і сьвятарствам.

Людвіка Нарбута спрабуюць забіць другі раз. У 1863 забілі цела. Зараз зьнішчаюць памяць. Але зьнішчыць мемарыяльную дошку - гэта яшчэ ня значыць выкінуць памяць з сэрца і душы. Памяць сэрца часта бывае больш трывалай, чым інфармацыйная.

**СТАНІСЛАЎ СУДНІК.**

**На здымку: На гэтым месцы была мемарыяльная дошка па Людвіку Нарбуту.**

# ВАНДАЛЫ ВЯРНУЛІСЯ!

Беларусы з асаблівым сентыментам і гонарам узгадваюць падзеі і постаці паўстаньня 1863 году. Нас уражвае гераічны паўстанцкі чын супраць імперскага прыгнёту "старэйшага" брата кагорты маладых людзей, якія ахвяравалі сваім дабрабытам, кар'ерай і нават жыцьцём за свабоду і незалежнасьць Бацькаўшчыны. А было ім тады 20-30 гадоў.

Адным з герояў паўстаньня быў сын вядомага гісторыка, аўтара "Гісторыі літоўскага народу", Тэадора Нарбута. Людвік Нарбут - палкоўнік паўстанскага войска, кіраўнік першага і найбольш пераможнага паўстанцкага атраду, які быў створаны ім і дзейнічаў на роднай Лідчыне. Загінуў трыццацігадовы палкоўнік у баі пад Дубічамі. Мемарыяльная дошка патрыёту ўстаноўлена ўдзячнымі нашчадкамі ў піярскім касьцёле ў 1938 годзе, у сувязі з 75-годдзем яго сьмерці.

Абураны фактам вандалізму Генеральны консул РП у Горадні пан Мар'юш Машкевіч 24 чэрвеня даслаў на імя Старшыні Лідзкага гарвыканкаму сп. У.М.Мальца, з паведамленьнем Старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму сп. А.І.Дубко і Пасольства РП у Менску, ліст з выказам пратэсту супраць патаемнага зьняцьця "з месца вызначанага гісторыяй і заслугамі" памятнай дошкі Людвіку Нарбуту. Генеральны консул падкрэсьліў, "што гэты факт не адпавядае палажэньню Дагавору аб добрасуседзтве і ўзаемным супрацоўніцтве паміж Польшчай і Беларусьсю".

Даволі часта нашы сучаснікі б'юць сябе ў грудзі і пасыпаюць галовы попелам за грахі папярэднікаў, якія разбуралі сьвятыні, пераворвалі могілкі, "апускалі" чалавека да стану жывёлы, забівалі (прабач іх Божа!), а самі паўтараюць іх грахі. Вандалізм у адносінах да памяці продкаў сёньня - гэта вынік палітыкі сучаснай улады. Пабудаваць дзяржаву без здабыткаў і памяці продкаў яшчэ не ўдалося ніводнаму народу. Такая палітыка - скок у нябыт.

**Т.КАВЕЦКАЯ.**




**6 ліпеня**

**1906г.** У вёсцы Мялькanaвічы (Слонімскі раён) нарадзіўся Антон Валынчык, вядомы хормайстар, кампазітар, музычны педагог. Працаваў у Навагрудку, Слоніме, Ашмянах, Горадні.

**7 ліпеня**

**1796г.** У Малюшычах (Карэліцкі раён) нарадзіўся Ян Чачот, адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры.



**1633г.** Памёр Леў Сапега, буйнейшы грамадзка-палітычны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, канцлер у 1589-1623г.г., адзін з аўтараў Статуту 1588г.

**1869г.** Нарадзіўся Лявон Вітан-Дубейкаўскі, вядомы архітэктар і паэт, дзеяч нацыянальнага руху.

**10 ліпеня**

**1830г.** Памёр Людвік Сабалеўскі, выбітны філолаг, бібліёграф. Працаваў у Вільні, Шчорсах.

**11 ліпеня**

500 гадоў (**1496г.**) наданьня Горадні поўнага Магдэбургскага права.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ.**

# СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

**Такімі словамі беларускае радыё адгукнулася на зьяўленьне касеты Віктара Шалкевіча "Смутны беларускі блюз". З нагоды выхаду ў сьвет плену сваёй працы, аўтар даў інтэрв"ю для "Пагоні".**

***Віктар, прыхільнікі тваёй творчасьці чакалі касету некалькі гадоў. Чаму яна так доўга да нас ішла?***

- Па-першае, трэба было знайсьці грошы. За вырашэньне гэтай праблемы я удзячны беларускай эміграцыі ў асобе Вітаўта Кіпеля і нашай маладой буржуазіі. Па-другое, калі грошы знайшліся, пачаліся пошукі студыі, дзе можна было б запісаць касету. У Менску нас вельмі непрыхільна сустрэлі. Я ўспомніў, што ўзнагародай за перамогу на "Басовішчы-93" было права на запіс ў студыі Беластоцкага радыё. Там усё зрабілі на вельмі добрым узроўні.

***У альбом увайшлі песьні, напісаныя даволі даўно. Але яны такія актуальныя, што, ня дай Бог, цябе могуць абвінаваціць у абразе сёньняшняй улады. Гэта здольнасьць да прароцтва?***

- Я не пісаў песьні наўмысна пра кагосьці, напрыклад, "Хамскую ўладу". На жаль, гэта нашыя вечныя праблемы. Хто вінаваты, што беларуская дзяржава ў канцы 20-га стагоддзя перажывае яго пачатак?

***Некалі некаторых вельмі абурала твая песьня "Жлобская нацыя". Нават дэманстратыўна выходзілі з залы, калі яна выконвалася. А пасьля рэферэндуму, тыя самыя людзі абзывалі народ такімі словамі, што "жлобства" магло гучаць як пахвала. Чым ты можаш гэта патлумачыць?***



- Мне здаецца "супершчырыя патрыёты" да канца не зразумелі, што адбылося з грамадзтвам, з краінай. Можа трэба было менш сьцягамі махаць, а больш да людзей хадзіць. Дарэчы "Жлобская нацыя" даўно была надрукавана ў амерыканскім "Беларусе". Там зразумелі, а ў нас, на жаль, дайшло не да ўсіх.

***Можа таму на вокладцы касеты ты ў строі сярэднявечнага блазна, які "стаміўся гаварыць тыя самыя словы"?***

- Я спадзяюся, сваякі Яна Матэйкі не пакрыўдзяцца, што быў выкарыстаны фрагмент яго карціны. Гэта блазан Ягелонаў Станчык, толькі з маім тварам. Ён быў далёка ня самы дурны сярод каралеўскай сьвіты. Мог адкрыта казаць праўду манарху. Кароль ня крыўдзіўся, а нярэдка і прыслухоўваўся да станчыкавых парад.

Ідэя вокладкі прыйшла ў галаву Алесю Сураву, а рэалізаваў яе Юра Бацылеў. За што яму сардэчна дзякую.

**ПРЭЗЕНТАЦЫЯ**

***А дзе і калі жадаючыя змогуць набыць тваю касету?***

- У суботу, 6 ліпеня а 19-й гадзіне ў тэатры лялек адбудзецца прэзентацыя "Смутнага беларускага блюза", на якой будуць распаўсюджвацца касеты. Адначасова спадзяемся неяк адзначыць 500-ыя ўгодкі наданьня Горадні прывілея Магдебургскага права. Запрашаю чытачоў "Пагоні".

Не пашкадуеце!

**Гутарыў Д.КІСЕЛЬ.**

# ГАРАДЗЕНСКАЯ ШКОЛА ВЫЦІНАНКІ

Мастацтва выцінанкі нарадзілася ў глыбокай старажытнасьці ў краінах Усходу. Адтуль разам з сакрэтам вырабу паперы распаўсюдзілася па Эўропе. Прычым у кожнай краіне выцінанка мае свае нацыянальныя традыцыі і мастацкія асаблівасьці. На Беларусі выцінанкі сталі надзвычай папулярнымі напрыканцы XIX-га стагоддзя. Імі ўпрыгожвалі хатні інтэр'ер, выкарыстоўвалі ў якасьці фіранак. Сёньня найбольш вядомымі выцінаншчыкамі на Беларусі лічацца Вячаслаў Дубінка і Ніна Сокалава-Кубай.

На Гарадзеншчыне таксама ёсьць арыгінальныя майстры-выцінаншчыкі, пра што сьведчыць выстава "Выцінанка Гродзеншчыны", якая нядаўна адкрылася ў кінатэатры"Гродна". Там экспануюцца працы Станіслава Муліцы, Людмілы Качалоўскай, Аляксандра Асіпенкі, Васіля Ракаўца і арганізатара выставы - мастака-графіка Алеся Аўчыньнікава. Такім чынам можна ўжо казаць ня толькі пра адраджэньне выцінанкі на Гарадзеншчыне, але й пра фармаваньне "гарадзенскай школы выцінанкі".

**Людвік САРОКА.**

# МУЗЕЙ ІГНАТА ДАМЕЙКІ

Рэальныя рысы пачала набываць даўняя мара вяскоўцаў, настаўнікаў і вучняў Мядзвядзкай базавай школы - музей нацыянальнага героя Чылі, выдатнага вучонага, дасьледчыка мінералогіі Ігната Дамейкі.

Некаторыя матэрыялы ўжо собраны пад час экскурсіі школьнікаў па Гарадзенскай вобласьці. Паабяцалі дапамагчы і супрацоўнікі Дома-музея Адама Міцкевіча ў Наваградку.

**І.ПЯТРОЎ, Карэліцкі раён.**

**АНОНС**

**11 ліпеня з нагоды 500-годдзя наданьня Горадні Магдэбургскага права ў галерэі "У МАЙСТРА" адбудзецца адкрыцьцё выставы прац мастачкі Анастасіі Фяцісавай "Міражы над старым Гродна".**

# ХРАМЫ СЫЙДУЦЦА Ў АДНО

**По пустэльнай раўніне ў далечыню бяжыць вялізны шлях. Паабапал каталіцкія касьцёлы і праваслаўныя цэрквы. Быццам варожыя крэпасьці. Храм супраць храма. Тоўстыя муры. Вокны, як байніцы. Але дзесьці далёка, за небасхілам дарога сыходзіцца ў кропку. А значыць, павінны сысьціся ў адно храмы і людзі, што ў іх моляцца. Захад і Ўсход, Праваслаўе і Каталіцтва існуюць ў непарыўным адзінстве. Так алегарычна перадаў ідэю царкоўнай вуніі мастак Уладзімір Фаменка на афішы, што цяпер можна ўбачыць у музеі гісторыі рэлігіі. З 27 чэрвеня тут пачала працу тэматычная выстава "На скрыжаваньні Захаду і Ўсходу. Уніяцкая царква на Беларусі".**



Аб гісторыі гэтай самай масавай у 17-18 стагоддзі канфесіі на нашых землях шэрагавы беларус мае надзвычай мала інфармацыі.

Выставу адчыняюць два партрэты пэндзля У.Кіслага - А.Пасевіна і П. Скаргі. Абодва манахі, езуіты, абодва спрычыніліся да пашырэньня Вуніі на Беларусі. Побач невялікі малюнак царквы Сьв.Мікалая ў Берасьці, дзе 400 гадоў таму у 1596 г. праходзіў сабор, што абвясьціў далучэньне праваслаўных Рэчы Паспалітай да Рыма. Ахвярнік гісторыі абільна паліты крывёю як уніятаў, так і праваслаўных. Вось на копіі з гравюры XVII ст. Язафат Кунцэвіч, полацкі ўніяцкі архіепіскап. З галавы тырчыць сякера. Такую сьмерць прыняў гэты Сьвяты ад рук жыхароў Віцебска. А далей кнігі, кнігі, кнігі... Выданьні уніяцкіх і праваслаўных друкарняў у Супрасьлі, Вільні, Пачаеве. Таўсьценныя фаліянты і амаль кішэнныя асобнікі. З дасканалымі гравюрамі, вычварнымі застаўкамі, канцоўкамі. Найбольш уражваюць уніяцкія абразы. У іх сапраўды скрыжаваўся Захад і Ўсход. Захоўваючы некаторыя рысы праваслаўнай традыцыі, постаці Хрыста, Божай Маці, евангелістаў, сьвятых усё болей набліжаюцца да заходняга сьвецкага партрэта, набываюць рысы жывых людзей, часам нават з простанароднымі грубаватымі тварамі. Непадалёку ад абразоў лунаюць драўляныя анёлы. Такіх было багата ва ўніяцкіх храмах XYIII ст. Рэшткі вуніі яшчэ доўга захоўваліся пасьля яе скасаваньня ў 1839 г. Напрыканцы выставы зьмешчаны абраз "Маці Божая ў смутку". Напісаны ужо для праваслаўнай



царквы, ён тым ня менш цалкам захаваў рысы старадаўняга ўніяцкага жывапісу.

Гарадзенцы і госьці горада да кастрычніка маюць магчымасьць азнаёміцца з экспазіцыяй гэтай выставы.

**Сяргей КАЗУЛЯ.**
**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**




Федэрацыя лёгкай атлетыкі Беларусі абвесьціла склад алімпійскай зборнай краіны, якая паедзе ў Атланту. Сярод будучых алімпійцаў - 8 гарадзенцаў. Гэта Натальля Сафроньнікава /200 м/ Алена Мазоўка /марафон/ Тацьцяна Храмава /вышыня/, Дзьмітрый Ганчарук /ядро/, Уладзімір Дуброўшчык /дыск/, Ігар Астапковіч /молат/, Эдуард Хямяляйнен /дзесяціборье/, Ірына Ятчанка /дыск/, Аляксандр Красько /молат/.



У Горадні праходзіць першынство Беларусі па лёгкай атлетыцы ў праграме юнацкіх спартыўных гульняў. Сёньня на стадыёне "Нёман" -заключны дзень спаборніцтваў.



У чарговым туры чэмпіянату краіны па футболе 3 ліпеня гарадзенскі "Нёман" перамог 2:1 Берасьцейскае "Дынама", а лідзкі "Абутнік" прайграў 0:2 магілёўскаму "Днепру". У другой лізе абодва клубы з Гарадзеншчыны свае чарговыя гульні прайгралі. Слонімскі "Камунальнік" - "Гомелю" 0-1, а "Кардан Флаерс" - віцебскаму "Лакаматыву" 1-2. Гол у гарадзенцаў забіў Сяргей Саладоўнікаў.

# ЗАМЕСТ "НЁМАНА" — СКА?

**Хранічныя няўдачы футбалістаў "Нёмана" у гульнях чэмпіянату краіны могуць прывесьці да зьмены гаспадароў каманды.**

Чарговая гульня "Нёмана" на сваім полі, якая адбылася 27 чэрвеня, яшчэ раз засьведчыла, што змагацца ў гэтым годзе гарадзенцам прыйдзецца не за медалі чэмпіянату ды пуцёўкі ў эўракубкі, а за права застацца ў 1-й лізе. У сустрэчы з менскім "Тарпеда" гульцы "Нёмана" за два таймы змаглі толькі "выціснуць"з сябе тры галявыя моманты . На пачатку матчу з выгаднага становішча прабіў Яўген Савань і затым фірменны розыгрыш штрафнога завяршыў добрым ударам Віктар Юйко. Але ў першым выпадку "Тарпеда" выратавала штанга, а ў другім - брамнік Аляксандр Васілеўскі.

Напрыканцы гульні добры момант меў Ігар Петрашэвіч. Адбіты пасьля выдатнага слаламу на фланзе Марата Белязякі, мяч прыляцеў якраз на галаву паўабаронцы "Нёмана", аднак свайго брамніка падстрахавалі тарпедаўскія абаронцы. У выніку нулявая нічыя пры "нулявой" гульні.

Разам з заўзятарамі "Нёмана" сьведкамі яе былі старшыня аблвыканкаму Аляксандр Дубко, яго намесьнік Мікалай Калацэй, а таксама высокія армейскія чыны. Прысутнасьць усіх гэтых асобаў на апошніх гульнях каманды дазваляе выказаць даволі "крамольнае" меркаваньне. Яшчэ пару няўдач - і каманда можа зьмяніць гаспадароў. Адпаведна, зьменіцца і назва. Замест "Нёмана", зьявіцца, напрыклад, "Вертыкаль" ці СКА.

Спорт заўсёды быў любімай цацкай высокіх чыноўнікаў у савецкія часы. На Беларусі, як вядома, часы гэтыя яшчэ ня скончыліся.

# ГЭТА - ПЕРШЫ?

**Адзін з лепшых баскетбалістаў "Гродна-93" і Беларусі Аляксей Альшэўскі з новага сезону будзе выступаць у беластоцкай "Інсталі".**



Усьлед за Альшэўскім каманду, якая сёлета выйграла чэмпіянат краіны, могуць пакінуць і іншыя вядучыя гульцы. Баскетбалістам ужо два месяцы ня плацяць заробак.

**Вітаўт РУДНІК.**
**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА**

**На здымку: Крайні зьлева – Аляксей Альшэўскі.**

# ЗАДАВОЛЕНЫ ЗНАХОДКАЙ

Грыб дажджавік вагою каля чатырох кілаграмаў знайшоў дзевяцікласьнік Карэліцкай школы Дзіма АНТОНЧЫК у раёне вёскі Горная Рута. "Падарунак" частых дажджоў быў засмажаны, бо, нягледзячы на вагу, грыб-велікан аказаўся малады і здаровы...

**Л.ЯСЕНЬ.**

**СЛУЖБА 02**

# ПРЫЕМНЫ ЮБІЛЕЙ

За студзень-чэрвень, згодна аператыўным дадзеным Дзяржаўнай аўтаінсьпекцыі, колькасьць аварый зьменшылася ў параўнаньні з мінулым годам на 9,9%, загінуўшых у іх - на 16%, параненых - на 7,6%.

Асабліва рэзкае скарачэньне аварыйнасьці зарэгістравана на Гарадзеншчыне. Калі летась адбылося 430 здарэньняў, то сёлета 346. Зьменьшылася таксама колькасьць загінуўшых і пацярпелых у іх. Па віне нецьвярозых вадзіцеляў у вобласьці здарылася аварый на 26,7% менш, чым у мінулым годзе.

3 ліпеня Дзяржаўтаінсьпекцыя Рэспублікі Беларусь адзначыла свой 60-гадовы юбілей .

**А.ДУК.**

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 465
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская,1
(0152) 45-35-61, 45-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-45-37-14 (23.00-10.00)



Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня; 230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 2285. Наклад 12029
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 04.07.96

Рэдактар Мікола Маркевіч